**У НУМАРЫ**



# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 15 (737) ГОД XV БЕЛАСТОК 12 КРАСАВІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


З СЯЛЯНСКАГА ВОПЫТУ




Вёска Ольша знаходзіцца ў Дуброўскім павеце. Невялікая гэта вёска. Налічвае ўсяго 32 гаспадаркі.

У вёсцы Ольша жыве Ян Рэмба. З яго добры гаспадар. Ён адзін з тых, хто ведае чаго можна і як трэба патрабаваць ад сельскай гаспадаркі. Дык жыве багата. Але тайнаў свайго багацця не трымае пад замком.

— Крыніцай майго багацця, — гаворыць, — з'яўляецца перш за ўсё ўласная праца і супольнае судзеянне з іншымі гаспадарамі з вёскі і наваколля. Трэба вам ведаць, што ў нас уся вёска партыйная. Наша вясковая арганізацыя ЗСЛь налічвае 31 член.

Сельскагаспадарчы гурток дзейнічае ў вёсцы Ольша ўжо 12-ты год. Быў ён першым гуртком, заснаваным у Дуброўскім павеце.

— У 1958 годзе, як толькі пачаліся арганізавацца гэтыя сельскагаспадарчыя гурткі, — успамінае Ян Рэмба, — сабралося нас 16 чалавек, пераважна членаў ЗСЛь, і рашылі мы купіць трактар.

Такім чынам, у вёсцы Ольша паявіўся першы трактар. Зараз альшэўскі сельскагаспадарчы гурток мае іх аж 5. Да гэтага неабходна дабавіць 3 абмалотачныя агрэгаты і шмат іншых механічных прылад, неабходных для апрацоўкі зямлі.

На панадворку ў Яна Рэмбы бачу новую абору і таксама новую прасторную клуню. Абодва будынкі мураваныя з бетонных пустакоў. Толькі хата ў Рэмбы, відаць, яшчэ даваенная.

— На ўсё грошай не хапіла, — паясняе гаспадар. — То ж на абору і на клуню прыйшлося выдаць звыш 100 тысяч зл. Ды самі ведаеце, не адразу Кракаў збудавалі. Прыдзе час і на хату. Можа сын за гэта ўжо возьмецца. Яму ж ужо 20 год і пакуль што ад гаспадаркі яшчэ не адракаецца. Нават курс трактарыстаў закончыў, сам трактарам ездзіць. Мы з ім разам на гэты курс хадзілі. Дазвол на кіраванне аўтамашынамі таксама маем абодва.

— Ці вы можаце сказаць, адкуль, з якіх крыніц вы чэрпаеце на ўсё гэтае грошы?

— А пэўна што магу. Д'ябал мне іх ноччу не прыносіць, — смяецца гаспадар, — у Амерыцы багатых сваякоў я таксама не маю. Вось адкуль... — і паказвае мне свае паморшчаныя, спрацаваныя рукі, праз якія праходзіць і

Працяг на стар.4



Яўгенія Бірыцкая ў ролі Паланеі ў п'есе Янкі Купалы «Прымакі» (гурток БГКТ у Семяноўцы, Гайнаўскага павета). Фота Віктар Бура

# ПЛЕНУМ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

**12 красавіка г.г. адбудзецца пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Павестка дня: «Заданні літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» і навуковага гуртка пры ГП БГКТ і супрацоўніцтва з навуковымі ўстановамі». Дакладчык: член прэзідыума ГП БГКТ, старшыня літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» доктар Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі).**

**Перад пленумам, удзельнікам яго, эстрада «Лявоніха» дасць паўтарагадзінны канцэрт (10—11/30). Будзе гэта, пасля рэарганізацыі, першае публічнае выступленне нашай эстрады.**

# ТАМ, ДЗЕ ДОКТАР БЯЗРАДНЫ

Змагацца з піццём гарэлкі — справа чуць не безнадзейная. Змагацца надта цяжка хаця б па той простай прычыне, што амаль усе мы час ад часу чарку выпіць любім. Нельга аднак не змагацца з тымі праявамі п'янства, якія парушаюць прынятыя прынцыпы чалавечага сужыцця, грамадскае пачуццё маралі, даводзяць сваю сям'ю і грамадства да матэрыяльных і маральных страт. А прыкладаў такіх ёсць мноства.

Спецыялісты падлічылі нават, што грамадства з прычыны п'янства траціць у год 10 мільярдаў і 600 мільёнаў злотых. (І мільярд — трэба помніць — гэта 1000 мільёнаў зл.) Не думайце аднак, што справа тут у залатоўках, якія вы выдаеце са свайго бюджэту на гарэлку. Коштаў гарэлкі ў падліках наогул не бралі пад увагу. На ўспомненыя вышэй страты складаюцца розныя няшчасныя выпадкі, знішчэнні дарагіх устройстваў і прылад, адсутнасць на рабоце з прычыны п'янства, дрэннае выконванне сваіх абавязкаў п'янымі людзьмі і г.д.

Калі б нават спецыялісты ад алкаголізму лічылі дрэнна і завысілі суму страт з прычыны п'янства — дык і так не сказалі яны аб п'янстве ўсяго. Рэшту даказаць маглі б тыя, хто на штодзень мае дачыненне з п'яніцамі і іх сем'ямі і бачыць безнадзейнасць іх жыцця. Сямействы алкаголікаў знаходзяцца часта ў крайняй нэндзы. Ды што горш, улады часта не могуць ім дапамагчы. Бо дапамога такая ідзе «ў горла» алкаголіка. Былі выпадкі, што муж-алкаголік, даведаўшыся, што жонка атрымала грашовую дапамогу, перапыніў яе на вуліцы і адабраў грошы, каб пасля прапіць. Іншы бацька сям'і адабраў ад дзіцяці вопратку, атрыманую ў дапамозе, ды прапіў яе.

Што рабіць у такім выпадку? Ёсць пастанова, што алкаголікі, якія парушаюць нормы грамадскага сужыцця, псуюць сямейнае жыццё, павінны быць кіраваны на прымусовае антыалкагольнае лячэнне. Ад шэрагу гадоў дзейнічае камісія, якая мае доўгае названне: грамадска-лекарская камісія да спраў прымусовага супрацьалкагольнага лячэння. Камісія робіць, што да яе належыць: рэгулярна праводзіць свае пасяджэнні і кіруе найбольш непрыстойных, псуючых жыццё іншым, алкаголікаў на прымусовае лячэнне. Уся бяда аднак у тым, што алкаголікі лічаць сябе абсалютна здаровымі і што ўсялякае лячэнне ім непатрэбнае. Як прымусіць кагосьці лячыцца?! Дактары не прывыкшыя прымушаць, лечаць толькі тых, хто хоча быць здаровым.

Аўтары спамянутай супрацьалкагольнай пастановы прадбачвалі, мабыць, гэтыя цяжкасці. Пастанова загадвае, што калі п'яніца сам не хоча прыходзіць да доктара, абавяза-

Працяг на стар.4

# БГКТ ХРОНІКА

■ 24 сакавіка прэзідыум ГП зацвердзіў даклад на пленарнае пасяджэнне. Другім пунктам пасяджэння было абмеркаванне праекта бюджэта для паасобных аддзелаў БГКТ.

■ 21 сакавіка хор гайнаўскага аддзела БГКТ выступіў з канцэртам для ўдзельнікаў агульнага сходу мясцовага ГС-у.

■ Варшаўскі аддзел БГКТ расшырае супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі. 25 сакавіка члены прэзідыума аддзела сустрэліся з кіраўніцтвам сталічнага праўлення ЗМС, а пасля з кіраўніцтвам варшаўскага ваяводскага праўлення ЗМВ і абмеркавалі справы супрацоўніцтва.

■ Пленарнае пасяджэнне гарадскога праўлення БГКТ у Беластоку 27 сакавіка выслухала справаздачу Марыі Макаль аб дзейнасці ў І-ым квартале 1970 года і прыняло прапановы Софіі Стаськевіч адносна формаў рэалізацыі плана працы ў красавіку.

■ Згодна з дагаворам ГП аб супрацоўніцтве з прафесіянальнымі саюзамі, ваяводская камісія прафесіянальных саюзаў закупіць уборы для мастацкіх калектываў і для эстрады ГП «Лявоніха» на суму 25 тыс. зл.

■ У варшаўскім аддзеле, у параўнанні з іншымі аддзеламі, найлепш выглядае справа з аплачваннем членскіх складчын. На дзень 26 сакавіка складчыны аплачаны ўжо ў 72% належнай гадавой сумы.

■ Гурток БГКТ у Пасынках пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніцы Аляксандры Панасюк падрыхтаваў п'есу У. Галубка пад загалоўкам «Суд». З ёю выступіць на элімінацыях драмгурткоў у Бельску.

■ Нашым літаратарам з аб'яднання «Белавежа» Сакрату Яновічу і Яну Чыквіну Польскае радыё ў Беластоку прысвяціла спецыяльныя перадачы.

■ Што вы думаеце пра «Лявоніху»? — пад такім загалоўкам у «Ніве» за 19 кастрычніка 1969 года была апублікавана анкета, на якую адгукнулася шмат чытачоў. Нядаўна разлясаваны ў ГП тры ўзнагароды для ўдзельнікаў анкеты. Атрымалі іх (выдавецтвы БГКТ) Валерыя Альхоўская з Новай Солі, Міхал Гацута з Новага Корніна і Вольга Вязоўская з Зубава. (мх)



Вясенняе разводдзе. Фота Ул. Паўлючук.




Пачатак на стар. 1

# Асновы багацця

зямля, і попел, і збожжа, і снег, і... усё іншае.

— З тых рук маё багацце.

— Але рукі ў кожнага гаспадара, аднак...

— Нічога надзвычайнага я не раблю. Пару год таму назад кантрактаваў я лён. Вось у 1968 годзе было ў мяне 2,25 гектара закантрактаванага ільну. Калі я яго сабраў і даставіў на скупачны пункт у Сухаволю, калі разлічыўся за ўгнаенні і за насенне — засталося ў мяне на руках 39 тысяч злотых.

Трымаю пародзістую кабылу. Што другі год маю ад'яе жарабя. Падхаваўшы яго, дастаю ў продажы да 15 тысяч зл. Кожны год здаю на скупачны пункт 5—6 штук парсюкоў, трымаю 8 штук рагатай жывёлы.

Пра збожжа таксама не забываю, асабліва цяпер, калі з нашага раёна вывелі кантрактацыю ільну. Дык кантрактую зараз амаль 2,5 гектара пшаніцы і жыта. Такім чынам, дастаўляю дзяржаве нейкіх 25 цэнтнераў збожжа, а часам, як пашанцуе, дык і больш.

Вось крыніцы майго прыбытку. Як самі бачыце, нічога тут няма цудоўнага. Мае залатоўкі пахнуць потам.

— Вы гаварылі пра супольнае дзеянне...

— Праяўляецца яно перш за ўсё ў арганізацыі нашай цяжкай працы. Для прыкладу возьмем штучныя ўгнаенні. У нас, у Ольшы, у сярэднім прыпадае па 70 кг хімічна чыстага рэчыва на адзін гектар, а я сам высяваю ў два разы больш. Пералічыце, калі ласка, усё гэта на 50-кілаграмовыя мяшкі і ўявіце сабе, колькі трэба сілы, каб усё гэта даставіць са складаў на панадворак і ў поле. Дык мы ўжо некалькі год арганізуем калектыўныя пастаўкі. Састаўляем дакладны спісак, што каму, дагазарваемся з ГС-ам, пасылаем свае гурткоўскія трактары і маем адразу на цэлы сезон штучныя ўгнаенні ў сябе на панадворку. Таксама супольна афармляем усе іншыя справы, якія датычаць цэлай вёскі. Прыходзіцца нам усё гэта тым лягчэй, што кожны сход сялян нашай вёскі адначасова з'яўляецца сходам гуртка ЗСЛь і сельскагаспадарчага гуртка.

**М. НУРЭЦКІ**

Пачатак на стар. 1

# ТАМ, ДЗЕ ДОКТАР БЯЗРАДНЫ

ны яго прывесці на месца лячэння міліцыянер. Але як гэта зрабіць? П'яніца, як п'яніца: або няма яго ў хаце, або калі ёсць, дык п'яны да непрытомнасці. А п'янага лячыць ад п'янства нельга.

Такім чынам, выкінутыя з нармальных каляін жыцця п'яніцы становяцца сапраўднай грамадскай праблемай. Іх колькасць не змяншаецца, а павялічваецца. У 1969 годзе ў беластоцкай выцверазілаўцы пабывала 6243 асобы, з чаго 2801 асоба па 3 і больш разоў. 2048 асоб, якія ў мінулым годзе наведалі выцверазілаўку, нідзе не працуе і не мае аніякай прафесіі. Успамянутая грамадска-лекарская камісія да спраў прымусовага супрацьалкагольнага лячэння разгледзела ад 1961 года 1366 заяў. На прымусовае лячэнне накіравана 673 асобы. З гэтага ліку сяк-так лечыцца толькі 30 асоб. Іншыя смяюцца з пастановы камісіі.

Сеймовая пастанова аб барацьбе з алкагалізмам абавязвае ўсе ваяводскія ўлады да арганізавання на тэрыторыі сваіх ваяводстваў устаноў закрытага лячэння алкаголікаў. Ваяводская рада народовая прыняла пастанову аб пабудове такой установы яшчэ ў 1962 годзе. І на гэтым, уласна кажучы, усё закончылася. Не зроблена дагэтуль нічога для ажыццяўлення пастановы. І не таму, што на будову няма грошай. Грошы ёсць — з даплат, якія плоцяцца за гарэлку. Але проста справа гэтая здаецца камусьці мала важнай — і ўсё.

Праўда, у шпіталі для нервова і псіхічна хворых у Харошчы ёсць невялікае аддзяленне супрацьалкагольнага лячэння. Грамадска-лекарская камісія можа кіраваць сюды не больш як 3—5 асоб у год. А ў адным толькі Беластоку жыве зараз каля 3000 асоб, якія ў той ці іншай форме патрабавалі б супрацьалкагольнага лячэння.

**Ул. Паўлючук**



Варта купіць красавіцкі нумар беластоцкага месячніка «Кантрасты», які ўжо паявіўся ў кіёсках «Руху». Прыносіць ён шмат цікавых матэрыялаў, а сярод іх: падборку выказванняў У. І. Леніна на тэму культуры і мастацтва; артыкул З. Каштылы аб удзеле польскага войска ў змаганнях з фашысцкімі захопнікамі на розных франтах II сусветнай вайны; артыкул М. Сухажэбрскага «Рэкорды і міфы», у якім аўтар на канкрэтных прыкладах з вёсак Беластоцкага ваяводства даказвае, што рэкордныя ўраджаі магчымы не толькі ў Даніі і Галандыі, што гаспадары Беласточчыны таксама патрапяць дасягаць па 30—40 цэнтнераў збожжа з аднаго га.

У гэтым жа нумары «Кантрасты» аддалі дзве старонкі друку нашаму рэдакцыйнаму сябру, Сакрату Яновічу. З нагоды прыняцця яго ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў «Кантрасты» ўзялі ад яго інтэрв'ю і друкуюць падборку яго твораў.

У польскай літаратуры пачынае пладаносіць «райская» тэма. Пасля аповесці М. Шулецкай вось у «Кантрастах» паявілася апавяданне «Скарга» Мечыслава Альбромскага, які таксама сягнуў да фактаў з трагедыі ў вёсцы Райск. Апавяданне яго заваявала спецыяльную ўзнагароду старшыні прэзідыума ВРН у Беластоку за мясцовую тэму.

І ўрэшце варта адзначыць, што ў гэтым нумары «Кантрастаў» знойдзем артыкул пра Ігната Грыневіцкага, ураджэнца вёскі Грыневічы Вялікія ў Бельскім павеце, які 13 сакавіка 1881 года з бомбай у руках кінуўся на цара і загінуў разам з смяротна параненым царом.

(вр)

ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# ◆ ВУГАЛ ◆

Вугал — найшырэй распаўсюджаны элемент архітэктурнай народнай разьбы паўднёвага ўсходу Беластоцкага ваяводства. Каля 70% хат, пабудаваных пасля I сусветнай вайны, мае вуглы, ашаляваныя і ўпрыгожаныя разьбой. На звыш 300 выкананых здымкаў — 102 прысвечаны ўпрыгожанням вуглоў. Шматлікія даследчыкі матэрыяльнай культуры ПНР сцвярджаюць, што мясцовая мастацкая шалёўка вугла належыць да з'яў, характэрных толькі для гэтай часткі тэрыторыі нашай краіны. З'ява гэта не адізалявана ад уплываў суседзяў. Параўноўваючы способы ўпрыгожвання вуглоў, напрыклад, усходніх славян, знойдзем многа агульнага. Уплыў гэтых культур тут несумненны. Трэба аднак заўважыць, што пасобныя элементы перапрацаваны і дастасаваны да мясцовага будаўніцтва і эстэтычных запатрабаванняў насельніцтва.

На апісваемай тэрыторыі амаль зусім не выступае, напрыклад, у пабудовах хат і іншых гаспадарскіх пабудовах так званы просты (рускі) вугал. Гэты спосаб спалучэння бярвенняў — круглякоў адышоў разам з курнымі хатамі.

Зараз дамінуе вугал гладкі, часта называны насельніцтвам: французскі, нямецкі і г.д. Такі вугал патрабуе забеспячэння ад гніцця, а гэта выконвалася пры дапамозе шалёўкі. Сустракаюцца яшчэ хаты, пабудаваныя ў міжваенны перыяд, вуглы якіх часова ашаляваныя абыякавай дошкай. Але большасць хат мае на вуглах цудоўную разьбу, хіба — найпрыгажэйшую з дагэтуль вядомых сярод усіх славянскіх народаў. Упрыгожванне вуглоў, як з'ява сапраўднага мастацтва, паявілася каля ста год таму назад, паступова ўдасканальвалася і дасягнула найвышэйшага ўзроўню каля паловы нашага стагоддзя. Вуглы ацалелых хат, пабудаваных яшчэ перад I сусветнай вайной маюць даволі простую разьбу. (Увогуле лік такіх хат склаў усяго 8% нашых здымкаў).



Хата Аляксея Мікалаюка з вёскі Канюкі, Бельскага павета.




**Вугал хаты Лук'яна Нічыпарука з вёскі Зубава, Бельскага павета (1904 г.)**

Вугал хаты Карпа Гаданчука з вёскі Снежкі, Бельскага павета, выкананы ў 1903 г., мае на адным баку шалёўкі выпілаваныя паўкруглыя зубчыкі. Шалёўка вугла хаты Аляксандра Дмітрука з вёскі Краснавесь таго ж павета мае яшчэ падвугольнік і дажджавік. На некаторых даваенных шалёўках паяўляюцца невялікія фігуркі і папярэчныя ліштвы панабіваныя цвікамі. (Васіль Салавянюк — вёска Трасцянка, Гайнаўскага пав. — 1908 г.), або нейкія неэстэтычна, рэдка размешчаныя геаметрычныя фігуры. Іншая шалёўка вуглоў таго ж перыяду выконвалася з гарызантальна замацаваных кароткіх філянговых дошак (адпадаў). Заканчэнні гэтых дошак адпаведна абрэзваліся, і дзякуючы гэтаму атрымліваліся ўзоры. Як прыклад прыгожай шалёўкі вугла да I сусветнай вайны (1904 г.), якая захавала многа характэрных тагачасных элементаў, змяшчаецца фотаздымак вугла хаты Лук'яна Нічыпарука з вёскі Зубава, Бельскага павета. На шалёўцы паяўляюцца ліштвы. Укладваліся яны ў форме геаметрычных фігур. У цэлым аднак была гэта яшчэ даволі прымітыўная кампазіцыя.

Развіццё мастацкага ўпрыгожвання вуглоў наступае ў міжваенны і пасляваенны перыяды. У гэты час цеслі паўднёвых паветаў (Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага) выпрацавалі ўласны стыль упрыгожвання вуглоў. З увагі на своеасаблівую прывычку мясцовага насельніцтва да ўкладвання падрубаў, таўсцейшых на 5—6 см ад сцен хаты, узнікла неабходнасць шалявання іх падвугольнікамі розных форм і пакрывання дажджавікамі. Гэты неадзоўны элемент шалёўкі вугла ўтварае быццам яе падставу (гл. фотаздымак вугла хаты А. Мікалаюка). Апошняя частка вугла шалюецца вылётнымі дошкамі, якія шчыльна замацоўваюцца да сцяны і дажджавіка. Шалёўкі гэтыя служаць падложжам, на якім укладваецца разьба.

**Ул. Юзвюк**




ПАСЛЯ ПЛЕНУМА ПК ПАРП У ГАЙНАЎЦЫ

# УМОВЫ АКТЫВІЗАЦЫІ ГАЙНАЎСКІХ ЖАНЧЫН

Усё, што можна сказаць аб «справе жанчын», з'яўляецца часткай спраў усёй грамадскасці, тут існуе аднак нейкая спецыфіка, якая вынікае з асаблівай ролі жанчын у сямейным жыцці, роля дастаткова важная, каб гэтымі справамі займацца асобна.

Гэтыя прадпасылкі былі прычынай таго, што на апошнім пленарным пасяджэнні Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы шмат дыскутавалася над напрамкамі далейшага развіцця палітычнай і грамадска-прафесіянальнай актыўнасці жанчын Гайнаўшчыны.

## ЗДАБЫТАЯ ПАЗІЦЫЯ

У дзяржаўным сектары гаспадаркі павета працуе больш 3 тысяч жанчын, у тым ліку больш 700 — у прамысловасці. Найбольшай колькасці жанчын (амаль 400) зможа даць працу ў бліжэйшыя гады гайнаўская прамысловасць. Працу атрымаюць перш за ўсё тыя жанчыны, якія атрымаюць прафесію мэбляра, токара, электрыка, набудуць розныя спецыяльнасці ў будаўніцтве і транспарце. Зразумела, што застанецца яшчэ даволі многа месц у іншых галінах гаспадаркі, між іншым, на пунктах паслуговых, павялічваюцца таксама магчымасці атрымання саматужнай працы. Аднак перш за ўсё патрэбныя будуць кваліфікаваныя работніцы.

Дагэтуль, на жаль, да спамянутых прафесій падрыхтоўваецца нямнога дзяўчат. Таму неабходна змяніць у адпаведным напрамку сістэму прафесіянальнага школьніцтва. У гэтым годзе можна заўважыць ужо першыя змены. Так, напрыклад, у ЗСЗ (засаднічай школе завадовай) у Гайнаўцы, куды раней прымалі толькі хлопцаў, прынята 26 дзяўчат. У цэнтры прафесіянальнага ўдасканальвання ў Чаромсе пачало вучыцца 80 дзяўчат. Была звернута таксама ўвага на дзяўчат пры наборы ў некаторыя школы, якія існуюць пры прадпрыемствах. Усяго гэтага аднак станоўча замала ў параўнанні з патрэбамі гаспадаркі.

Высокай з'яўляецца прафесіянальная актыўнасць вясковых жанчын Гайнаўшчыны. Разам з адплывам мужчын на работу па-за сельскай гаспадаркай, жанчыны часта вырашаюць аб развіцці паасобных гаспадарак. На працы жанчын абапіраюцца цэлыя галіны сельскай гаспадаркі, як, напрыклад, гародніцтва, жывёлагадоўля (асабліва птушкагадоўля), прадукцыя малака, вырошчванне прамысловых раслін.

Аб ролі жанчын у агульным развіцці сельскагаспадарчай прадукцыі павета сведчыць найлепш наступны прыклад: у 1968 г. гайнаўская вёска за прадукцыю малака атрымала 42 млн. зл., за птушак і яечкі — 20 млн. зл., а за жывец — 67 млн. зл.. У суме за прадукты, пры прадукцыі якіх асноўную ролю адыгрываюць жанчыны, было атрымана 129 млн. зл.; увесь жа даход гайнаўскай вёскі, атрыманы за продаж галоўных сельскагаспадарчых культур, склаў 163 млн. зл.

Прафесіянальнае ўдасканальванне вясковых жанчын, іх актывізацыя, з'яўляецца такой самай гаспадарчай неабходнасцю, як і жанчын, працуючых па-за сельскай гаспадаркай. І сярод вясковых жанчын неабходна пашыраць асвету і культуру, неабходна абуджаць іх грамадскую і палітычную актыўнасць.

## АРГАНІЗАЦЫЯ СЯМЕЙНАГА ЖЫЦЦЯ

Як у горадзе, так і на вёсцы трэба эканоміць час жанчыны, аслабаніць іх ад найцяжэйшых і найбольш працахлонных заняткаў, арганізаваць апеку над дзяцьмі, каб магла яна спакойна заняцца прафесіянальнай працай, каб магла знайсці час на вучобу і павышэнне кваліфікацыі, на ўдзел у грамадскім і палітычным жыцці.

У час пленума многа было зроблена заўваг у адрас дырэктараў, майстраў, якія неахвотна прымаюць жанчын на работу. Не раз у выступленнях на падставе прыкладаў падкрэслівалася, што жанчына часта лепш і больш дакладна выконвае сваю работу, чым мужчына.

Чаму ж тады так неахвотна прымаюць жанчын на работу? Здаецца, што справа тут не ў закаранелых традыцыйных поглядах адміністрацыі прадпрыемства, таксама не ў мацярынскіх водпусках, якімі жанчына карыстаецца ў асноўным 2—3 разы на працягу доўгіх год прафесіянальнай працы. Найбольшыя клопаты аднак з звальненнямі, у якіх немагчыма адмовіць, а якія выкліканы дрэннай арганізацыяй сямейнага жыцця, выкліканай у сваю чаргу дрэннай арганізацыяй грамадскага жыцця.

Ад 1960 года не прыбыло ў павеце аніводных ясляў (жлобкаў). Тыя, што існуюць, маюць усяго 60 месц (у сакавіку будуць аддадзены да ўжытку гарадскія яслі, на 100 месц). У той жа час пачало працаваць 430 жанчын, амаль 120 з іх мае дзяцей да трох год. Толькі 70% дзяцей у дашкольным ўзросце апынулася ў дзіцячых садах (прадшколлях). Замала ёсць школьных святліц, асабліва такіх, дзе дзеці маглі б з'есці і атрымаць адпаведную педагагічную апеку.

Ці ж могуць тады маткі ісці спакойна на работу, калі не ўдасца знайсці ней-

